АДНА ЗЯМЛЯ

Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

3 – 9 сакавіка 2000 года
ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ
Цана ў розніцу 60 руб. (60 000 руб.)

№ 9 (254)

НАДВОР'Е НА ВЫХАДНЫЯ

| | Субота, 4 сакавіка | | Нядзеля, 5 сакавіка | |
|---|---|---|---|---|
| | Мінск | Вільня | Мінск | Вільня |
| Уначы | -3°C | -3°C | -1° – -3°C | -1°C |
| Удзень | 0° – +1°C | +1°C | +1° – +2°C | +1°C |

# Са святам, мілыя жанчыны!



ФОТА АЛЯКСЕЯ ФЯЦІСАВА, МАЛАДЗЕЧНА.

*Вачэй
жаночых
тайну
не раскрыць.*

*Патонуць
ў іх —
даволі
проста.*

*Глядзіш
ў расінкі —
згадваюцца
росы...*

*Нам
вочы вашыя
ніколі
не забыць.*

ВІЛЕЙКА

## Маленькая выручка спажыўкааперацыі

Адбыўся выязны семінар Мінскага аблспажыўсаюза. Спачатку чыноўнікі з Мінска агледзелі, як ідуць справы ў Маладзечанскім і Вілейскім раёнах. Пасля правялі нараду ў будынку Вілейскага райвыканкома, на якой падвялі вынікі работы райспажыўсаюзаў.

Адзначана, што адна з асноўных праблем – аддаленасць гандлёвых пунктаў. З гэтай прычыны значна павялічваюцца затраты на бензін, як вынік – падаражэнне прадуктаў і тавараў; невялікая зарплата работнікаў сельскай гаспадаркі не заўсёды дазваляе набыць іх – адсюль і маленькая выручка ў магазінах сістэмы райспажыўкааперацыі.

*Ігар КІЦІКАЎ.*

СМАРГОНЬ

## Дзіцячае кафэ замест дзіцячага садка

Днямі маладое пакаленне мікрараёна Карані атрымала падарунак – двухпавярховы маладзёжны цэнтр. Меркавалася, што тут будзе дзіцячы садок, але з цягам часу неабходнасць у ім адпала, і будынак рэканструявалі пад маладзёжны цэнтр.

Тут размясціліся дзіцячае кафэ на 50 месцаў, камп'ютэрны клас, пакой для швейнага гуртка і рукадзелля, танцавальная зала (аснашчаная унікальным абсталяваннем для дыскатэкі) з барам, а таксама падсобныя памяшканні і шмат іншага. Дызайн цэнтра афармілі мінскія мастакі, а грошы на рэканструкцыю і аснашчэнне выдаткаваў рэспубліканскі бюджэт.

*Павел МАКЛЮК*

АШМЯНЫ

## Internet ідзе ў Ашмяны

З 2–га сакавіка ў Ашмянах адкрыўся Internet–клуб. Кошт работы ў Internet складае 19,9 рублёў за хвіліну.

Але ў першы дзень паслугі былі абсалютна бясплатныя.

*Ганна СУСЛАВА.*

МЯДЗЕЛ

## Брэсцкі канфіскат у мядзельскім музеі

Больш за год у раённым музеі народнай славы экспануецца выстаўка абразоў, прымеркаваная да 2000–годдзя хрысціянства. Паходжаннем абразы з розных мясцін Расіі, але трапілі яны ў Мядзел не адтуль, а з Брэсцкай мытні. Гэта так званы канфіскат – тое, што няўдачлівым кантрабандыстам не ўдалося правезці праз мяжу.

*Алесь ВЫСОЦКІ.*

СМАРГОНЬ

## У Смаргоні мала макулатуры

Непасільную задачу – сабраць і здаць 360 тон макулатуры – так і не выканалі смаргонскія арганізацыі ў мінулым годзе. Сабралі толькі 188 тон.

А ўжо на гэты год райвыканком устанавіў іншае заданне: сабраць і здаць 190 тон макулатуры. Вялікую колькасць яе будуць збіраць жыллёва–камунальная гаспадарка, школы і некаторыя арганізацыі і прадпрыемствы раёна.

*Павел МАКЛЮК.*

МАЛАДЗЕЧНА

## Сустракайце вясну на вуліцы Буйло

Праз тыдзень у горадзе мяркуюць развітвацца з зімой. 10 сакавіка ў Цэнтры эстэтычнага выхавання пройдзе дзіцячае свята Масленіцы. На ім будуць прысутнічаць каля 600 дзяцей з гарадскіх школ. Іх чакаюць гульні, конкурсы; таксама будуць традыцыйныя масленічныя ласункі: бліны, гарбата. А 12–й гадзіне сустракаць вясну будуць па вуліцы К. Буйло, 1, што ў раёне хлебазавода.

*Аддзел інфармацыі.*

СМАРГОНЬ

## Пенсіі ад 1 да 61 тысячы

Кожны месяц на Смаргоншчыне выдаецца 15787 пенсій. Цікава, што двое грамадзянаў атрымліваюць самыя малыя пенсіі: усяго па 1030 дэнамінаваных рублёў. Яшчэ двое – самыя вялікія: па 61 тысячы.

*Павел МАКЛЮК.*

МІНСК

## У Беларусі распадаецца кожная другая сям'я

У 1999 годзе ў Беларусі распалася 40 тысяч 432 сям'і. Адначасова аддзеламі ЗАГС было зафіксавана 73 тысячы 87 новых сем'яў. Такія звесткі былі прыведзеныя 21 лютага на пасяджэнні ў Міністэрстве юстыцыі, прысвечаным падвядзенню вынікаў работы ўстаноў ЗАГС краіны ў 1999 годзе.

На пасяджэнні таксама адзначалася, што дэмаграфічная сітуацыя ў краіне, па-ранейшым, застаецца неспрыяльная. На працягу апошніх пяці год смяротнасць у Беларусі перавышае нараджальнасць. У 1999 годзе ва ўстановах ЗАГС зарэгістравана 94 тысячы 510 нованароджаных. Памерлі ж у краіне летась 142 тысячы 519 чалавек.

*Юрый ПАЦЁМКІН, БелаПАН.*

СТРАХАВАННЕ

## Страхавыя прэтэнзіі перыяду Халакосту будуць разгледжаныя. Звяртайцеся

Міжнародная камісія па страхавых прэтэнзіях, што тычацца перыяду Халакосту (ICHEIC), пачала разгляд прэтэнзій, звязаных з нявыкананымі страхавымі абавязацельствамі ў адносінах да ахвяраў Халакосту, іх нашчадкаў і асоб, якім прызначалася выплата страхавой дапамогі па полісах страхавання жыцця, адукацыі і пасагу, выдадзеных у перыяд 1920–1946 г. г.

У Міжнародную камісію ўвайшлі страхавыя кампаніі Allianz, AG, AXA, Generali, Winterthur Leben, Zurich Financial Services, а таксама іх даччыныя кампаніі. Прэтэнзіі па полісах, выдадзеных іншымі кампаніямі, будуць ім перадавацца на разгляд з просьбай аб задавальненні. Асобны Гуманітарны фонд займаецца прэтэнзіямі па полісах, выдадзеных кампаніямі, якія к цяперашняму часу спынілі сваё існаванне.

Поўную інфармацыю можна атрымаць па бясплатных "гарачых" тэлефонных лініях, праз спецыяльныя паштовыя цэнтры або праз шматмоўны сайт у Internet.

Асобам, што пражываюць ў Рэспубліцы Беларусь і мяркуюць, што ў іх могуць быць прэтэнзіі па нявыкананых страхавых абавязацельствах, пісаць па адрасе: 220103 Мінск, а/с 27, тэл. 375-017-263-45-53, Міжнародная камісія па страхавых прэтэнзіях, якія тычацца перыяду Халакосту, або наведаць сайт ICHEIC у сетцы Internet па адрасе: www.ICHEIC.org

СВАБОДА СЛОВА І ЎЛАДА

## Старшыня Астравецкага райвыканкома Адам Кавалька можа быць прыцягнуты да адказнасці

У мінулым нумары "РГ" паведамлялася аб незаконным адмаўленні ў акрэдытацыі пры Астравецкім райвыканкоме журналістаў нашай газеты. Старшыня выканкома Адам Кавалька не палічыў неабходным рабіць гэта па прычыне таго, што "*Раённая газета "Астравецкая праўда" у поўнай меры асвятляе дзейнасць раённага выканаўчага камітэта, а рэдактар гэтай газеты з'яўляецца членам выканкома. Акрамя таго, многія звесткі аб падзеях, якія адбываюцца ў раёне, публікуюцца ў газеце "Гродненская правда»*.

Рэдакцыя абскардзіла дзеянні чыноўніка ў Гродзенскі аблвыканком. Мы таксама атрымалі каментарый сітуацыі ад Цэнтра прававой абароны СМІ Беларускай асацыяцыі журналістаў, які змяшчаем на 10-й старонцы.

ВЫТВОРЧАСЦЬ

# За сямю пячаткамі

## Тайнай застаецца жыццё на заводзе «Спадарожнік». Тайнай, пра якую ведаюць усе

Перамены ў грамадстве ўнеслі змены ў статус буйнейшага прадпрыемства ў Маладзечне – радыёзавода "Спадарожнік". Газеты перасталі сарамліва замоўчваць яго існаванне. Пачала з'яўляцца інфармацыя аб праблемах на прадпрыемстве, яго прадукцыі. Спадзяванні на тое, што прадпрыемства, з якім звязаны лёс вялікай часткі жыхароў нашага рэгіёна, стане больш адкрытым для прэсы з'явіліся каля года таму, калі яго ўзначаліў новы кіраўнік – Уладзімір Шпакаў. Аднак Уладзімір Пятровіч старанна пазбягае кантактаў з журналістамі. Пасля некалькіх спробаў наладзіць кантакт з кіраўніком прадпрыемства і пацікавіцца новым штатным раскладам на заводзе, мы ўпэўніліся – дарэмная трата часу.

А праблемы "Спадарожніка" могуць ператварыцца з мясцовых у праблемы больш значныя.

Завод вядомы, акрамя ўсяго, вытворчасцю сродкаў радыё– і тэлефоннай сувязі, якія, не сакрэт, саступаюць замежным аналагам, але застаюцца даволі папулярнымі на тэрыторыі СНД. На жаль, нават гэта прадукцыя можа даволі хутка перастаць выпускацца. У тым выпадку, калі захаваюцца тэндэнцыі ў кадравай палітыцы, стаўленне да тых, хто гэтую прадукцыю выпускае.

У матэрыяле "На "Спадарожніку" застанецца 600 чалавек", які быў надрукаваны ў пачатку снежня мінулага года, гаварылася, у прыватнасці, што калісьці колькасць работнікаў толькі ў адным зборачным цэху даходзіла да 900 чалавек.

Сёння колькасць працуючых ацэньваецца прыкладна ў 2000 чалавек. Два з невялікім зборачных цэхі пачатку дзевяностых...

На заводзе скарачаюцца пераважна жанчыны, гэта значыць, спецыялісты масавых і вызначальных для прадпрыемства прафесій.

Здавалася б, скарачэнне – мера па ўпарадкаванню структуры прадпрыемства, дзеянні, якія могуць зрабіць вытворчасць больш эфектыўнай. На самой справе, часта скарачэнне – толькі кампраміс паміж работнікам, які жадае звольніцца на спрыяльных для сябе ўмовах, і адміністрацыяй, якая шукае спосабы выкінуць за борт баласт, хаця карабель усё адно пусціць бурбалкі. Толькі на колькі гадзін пазней.

Зразумела, што той, каго не задавальняе заработная плата, а ён прыгледзеў дзесьці лепшую работу, усё адно будзе звальняцца, але лепш гэта зрабіць па ініцыятыве адміністрацыі – па скарачэнні. Тады і грашовую кампенсацыю атрымаеш. Тое самае і з умовамі працы. Дарэчы, у марозныя дні ў цэхах "Спадарожніка" тэмпература часта не перавышала 10–градуснай адзнакі. Батарэі ацяплення цёплымі не назавеш. Топяць так, кажа адзін з работнікаў завода, каб толькі не размерзліся батарэі.

На думку тых, хто калісьці працаваў на "Спадарожніку", з прадпрыемства звольніліся ўсе, хто змог знайсці больш–менш прыдатнае месца работы. Астатнія толькі чакаюць зручнага моманту. Магчыма, хто–ніхто і задумаўся б: варта, можа, і дачакацца лепшага часу на "Спадарожніку", але планы кіраўніцтва застаюцца тайнай за сямю пячаткамі. Ва ўсякім разе, для чытачоў "Рэгіянальнай газеты".

### 3 лёсаў

**Алена С.** Працавала на "Спадарожніку", ніколі не думала пра тое, што настане час, калі прыйдзецца шукаць лепшую долю, мяняць прафесію. Аднак такі час прыйшоў. І яна, маці дваіх дзетак, "скарочаная", мусіла вырашаць: станавіцца трэцім утрыманцам на шыі мужа, або... І пайшла перавучвацца на гандляра. Сёння ездзіць рэгулярна на Лебядзіны, дзе мае невялічкі, але свой бізнес, які дазваляе забыцца на ўтрыманскую заработную плату на "Спадарожніку", зноў адчуць сябе чалавекам. Магчыма, такое рашэнне далося нялёгка, але яно адбылося.

**Вераніка Ц.** Працуе на "Спадарожніку". Запланаваць нейкія прыстойныя пакупкі сабе або сваім двум дзеткам не можа. На мужчынскую падтрымку таксама не разлічвае. Але працуе. І пакуль не думае пра перамены ў лёсе.

**Сямён К.** Дзякуючы сваім здольнасцям ў слясарнай справе мае два "бізнесы". Адзін удзень за прахадной завода, другі ўвечары – рамантуе тэлевізары. Бывае, тры вечары прыносяць больш чым чатыры тыдні працы на прадпрыемстве. Гаворыць, што звольніцца, калі не будзе чым "паласавацца" ў заводскіх цэхах.

Гісторыі рэальныя. Змененыя толькі імёны людзей. Але, упэўнены, кожны з тых, каго лёс зводзіў са "Спадарожнікам", можа расказаць не менш за тузін падобных гісторый. У кожнай з іх не шмат радасці. Проста адныя могуць выкарыстоўваць сітуацыю на сваю карысць, іншыя – падпарадкоўваюцца ім.

Прааналізаваўшы змяншэнне колькасці працуючых на заводзе, можна сказаць, што 600 чалавек застанецца на "Спадарожніку" неўзабаве. Скарачэнні працягваюцца.

На момант падрыхтоўкі матэрыялу завод, скарачаючы персанал, па–ранейшым, у асноўным, жанчын, заяўляў аб вакансіях. Патрабаваліся сталяры, слесары–сантэхнікі, фрэзероўшчыкі, наладчык абсталявання, токары, слесары–інструментальшчыкі, слесары па вентыляцыі, трэнер, інжынер–электрык, наладчыкі станкоў з лічбавым праграмным кіраваннем, акумулятаршчык.

### А будучыня?

Якой бачыцца сітуацыя на "Спадарожніку" з вокнаў гарвыканкома? Мы сустрэліся з намеснікам старшыні Маладзечанскага гарвыканкома **Яфімам Ідэльчыкам.**

– *Гарвыканком сапраўды вельмі хвалюе становішча на "Спадарожніку",* – расказвае Я. Ідэльчык. – *Урэшце, як і становішча ў кожным калектыве, кожнага прадпрыемства. Тым больш, у адным з самых буйных калектываў. Цяжкасці ўзніклі таму, што ў часы СССР завод на сто працэнтаў быў абаронным прадпрыемствам. Для таго і будаваўся. Працаваў на Узброеныя Сілы СССР, з гэтым спраўляўся з гонарам і без усякіх двукоссяў. Цяпер, калі такога заказчыка не стала, гаворка ідзе пра стварэнне ў старых сценах новага завода, з новай прадукцыяй, новымі тэхналогіямі. Якая будзе колькасць працуючых на прадпрыемстве – пакажа час.*

*Магчыма, новае прадпрыемства будзе спецыялізавацца на сродках сувязі. У гэтай галіне "Спадарожнік" – твар краіны. Як тварам краіны з"яўляюцца "МАЗ", "Атлант". А канкурэнты, скажам, у Расіі, у гэты час не спяць.*

*Працэс станаўлення – доўгі і нялёгкі. Гэты перыяд звязаны з нізкімі зарплатамі. Зразумела, за гэты час некаторыя кваліфікаваныя работнікі могуць дзесьці знайсці работу з дастойнымі іх заробкамі.*

*Праблемы на "Спадарожніку" – гэта задача і для Міністэрства прамысловасці, і для дырэкцыі завода, і для кіраўніцтва горада.*

**Аляксандр МАНЦЭВІЧ.**

| | 1995 г., чэрвень | 1996 г., чэрвень | 1997 г., чэрвень | 1998 г., чэрвень | 1999 г., чэрвень |
|---|---|---|---|---|---|
| | 5036 | 3914 | 2983 | 2376 | 2098 |

*Так змяняецца сярэднеспісачная колькасць працуючых на «Спадарожніку». Сёння на заводзе не засталося і паловы тых, хто пераступаў прахадную ў 1995 годзе. За кожным з тых, хто звольніўся – свая гісторыя. Свая драма.*

| | 1996 г. | 1997 г. | 1998 г. | 1999 г. |
|---|---|---|---|---|
| | 529 | 417 | 173 | 353 |
| | 414 | 308 | 157 | 309 |

*Колькасць скарочаных (дыяграмы чорнага колеру), у тым ліку жанчыны (дыяграмы шэрага колеру).*

ПА ЗВЕСТКАХ РЭГІЯНАЛЬНАГА ЦЭНТРА ЗАНЯТАСЦІ.

БАЗАРНЫ ДЗЕНЬ

## Курсы валют НБ РБ

| | 24 лютага | 2 сакавіка |
|---|---|---|
| Долар | 406,00 руб. | 415,00 руб. |
| Марка Герм. | 208,34 руб. | 205,66 руб. |
| Літ | 101,49 руб. | 103,74 руб. |
| Рас. руб. | 14,08 руб. | 14,50 руб. |
| Злоты | 99,18 руб. | 99,71 руб. |
| ЕЎРА | 407,48 руб. | 402,24 руб. |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 875 – 890 руб. | 880 – 900 руб. |

## МАЛАДЗЕЧНА. Цэны ў сераду на рынку

| ПРАДУКТЫ | | ЦАНА (руб.) 23.02 | 01.03 |
|---|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі | 1 кг | 980 | 980 |
| Кілбаса с/вэндж. | 1 кг | 3600 | 3500 |
| Сасіскі | 1 кг | 1166 | 980 |
| Селядзец салёны | 1 кг | 660 | 680 |
| Рыс | 1 кг | 400 | 380 |
| Грэчка | 1 кг | 600 | 550 |
| Цукар | 1 кг | 258 | 258 |
| Алей | 1 л | 650 | 670 |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 380 | 370 |
| Маянэз | 250 г | 150 | 150 |
| Кава "Пеле" | 100 г | 900 | 900 |
| Шпроты, бляшанка | 160 г | 320 | 300 |
| Соус там. «Мінскі» | 0,5 л | 210 | 200 |
| Лімоны | 1 кг | 960 | 960 |
| Апельсіны | 1 кг | 650 | 620 |
| Цыбуля рэпчатая | 1 кг | 190 | 190 |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | | |
| Смятана | 1 л | 500 | 500 |
| Масла | 1 кг | 1200 | 1200 |
| Тварог | 1 кг | 600 | 600 |
| Малако | 1,5 л | 220 | 220 |
| Бульба | вял. вядро | 800 | 800 |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 480 | 500 |
| Яблыкі | 1 кг | 380 | 500 |
| Капуста | 1 кг | 120 | 150 |
| Морква | 1 кг | 240 | 280 |

## У Маладзечне купляць выгадна

МАЛАДЗЕЧНА. У нядзелю на маладзечанскіх рынках сустрэў шмат віляйчан. На харчовым было шмат пакупнікоў з Вілейкі. Сказалі, што, па–першае, харчовы рынак у Вілейцы раскіданы, у адным месцы немагчыма купіць увесь прадуктовы набор, па–другое, цэны ў Маладзечне значна ніжэйшыя. Прыкладам, курыныя кумпячкі: Вілейка – 1200 рублёў, Маладзечна – 950; мандарыны: Вілейка – 1000, Маладзечна – 900 і г. д.

Такім чынам, за кошт розніцы цаны акупляецца білет на аўтобус, а калі браць шмат, – дык і бензін на машыну. Таму ж зручна: усё ў адным месцы.

На рэчавым убачыў некалькі вілейскіх гандляроў.

– А што вас занесла сюды?

– Пасля пераносу рынку ў парк тавараабарот знізіўся. Таму на выхадныя ездзілі сюды: за дзень можна нагандляваць болей, чым за тыдзень у Вілейцы.

ВІЛЕЙКА. Цэнтр гігіены і эпідэміялогіі забараняе гандаль прадуктамі з малым тэрмінам рэалізацыі (кумпячкі, рыба, малако) на рынках у парку, на "хітрушцы", каля 26–га магазіна, спасылаючыся на адсутнасць халадзільнага абсталявання.

Такое абсталяванне ёсць на калгасным рынку. Можа, не трэба вынаходзіць веласіпед, а дружна пайсці ўсім прадуктовым гандлярам на калгасны рынак? Дастаткова ўспомніць прэцэдэнт з пераносам рэчавага рынку ў Маладзечне. А калі ў адным месцы будзе ўвесь прадуктовы набор, туды, натуральна, пацягнецца і пакупнік.

**Ігар КІЦІКАЎ.**

## Рэнтабельная сушаная плотка

МАЛАДЗЕЧНА. На харчовым рынку бабкі гандлююць сушанай плоткай. Невялічкай – як казаў адзін вілейскі рыбак – "я на такую шчупакоў лаўлю ці катам аддаю". Але ж цана за такую рыбку – 100 рублёў пры вазе 50 грамаў. Няцяжка падлічыць: калі ў Вілейцы 1 кілаграм сырой плоткі каштуе 400 руб., а перапрацоўка (саленне, сушка) займае 6 дзён, дык прыбытак за тыдзень складзе 1600 руб. ці 500%.

**Ігар КІЦІКАЎ.**

ТРАНСПАРТ

# Маладзечна: чакаем гарадскі аўтобус

**Працяг. Пачатак у №8.**

### 3 розных бакоў

**Антон Руткоўскі** працуе вадзіцелем 18 год. У асноўным, водзіць гарадскія аўтобусы. Горад аб'ездзіў уздоўж і ўпоперак – штодня па 8–9 гадзін за рулём.

**– Ці бываюць перабоі з зарплатай?**

– Разлічваюцца з намі своечасова. Натуральна, у савецкія часы плацілі больш. Тады і запчастак хапала, праблем з папаўненнем новымі машынамі не ўзнікала. А цяпер з усім гэтым цяжка.

**– Колькі рэйсаў вы робіце за змену?**

– Усё залежыць ад маршруту. На "шасцёрцы", прыкладам, атрымліваецца зрабіць 7 рэйсаў.

**– А што наконт славутых доўгіх "адстоеў"–перапынкаў паміж рэйсамі?**

– Толькі 2–3 хвіліны плюс перапынак на абед. Гэта і ёсць так званы "адстой".

**– Для вас асабіста ёсць розніца, на якім маршруце працаваць?**

– Працаваў на ўсіх, таму асаблівай розніцы няма. А найбольш папулярныя рэйсы – "10", "6" і "2", бо яны праходзяць па лепшых дарогах.

**– Колькі аўтобусаў адначасова знаходзяцца ў горадзе?**

– Больш за ўсё "шасцёрак" – 5, астатніх меней – па 4, па 3. Хачу сказаць, што замінае дрэнны стан дарог. "Дзякуючы" дарогам, машыны часта патрабуюць рамонту, а ў цяперашніх умовах для нас гэта сур'ёзная праблема.

З'яўленне кандуктараў стала неад'емнай часткай быцця маладзечанскіх пасажыраў.

Расказвае **Наталля**:

– Я раней працавала на заводзе "Спадарожнік" мантажніцай. Звольнілася па скарачэнні штатаў. Цяпер – на новым рабочым месцы. Атрымліваю ў залежнасці ад выручкі – за месяц, у сярэднім, набягае 15–20 тысяч. Плацяць без затрымак.

**– Рабочы дзень, як у вадзіцеля?**

– У нас свае змены – з 5 да 15 гадзін, з 15 да 21, а калі і да 0–30 даводзіцца працаваць.

**– А для вас якія маршруты найбольш прывабныя?**

– Тыя, дзе найбольш людзей ездзіць – тады і выручка большая. Гэта "дзесятка", "шасцёрка", "двойка", "адзінаццатка".

Кожны дзень кандуктары выходзяць на новы маршрут – усё залежыць ад дыспетчара. Кожны з іх мае пасведчанне кантралёра, мае права праверыць білет. Хаця карыстаюцца гэтым правам рэдка: небяспечна (дажыліся!), асабліва ў вячэрні час. Лепей, калі заходзіць "на дапамогу" група кантралёраў, а то без рук і ног можна застацца.

За мінулы год штраф за безбілетны праезд заплаціла прыкладна тысяча чалавек. У сярэднім, за дзень колькасць выяўленых "зайцаў" складае 2–3 чалавекі. У амаль стотысячным горадзе безбілетнікаў значна больш, ёсць рэзервы для "росту".

Не даць слова пасажырам было б усё ж такі нелагічным. Хаця і заўважалі мы, што толькі лянівы не крытыкуе АП №4.

**Васіль** працуе ў сістэме аховы:

– Найбольш папулярныя для мяне маршруты: "9", "10", "7". На іх я дабіраюся і на работу, і дадому. Ведаеце, прэтэнзій асаблівых у мяне няма.

**– Карыстаецеся праязным ці купляеце талоны?**

– Часцей талонамі, 20 рублёў – не грошы.

**– "Зайцам" у апошні час даводзілася ездзіць?**

– Сорамна ў мае гады (на выгляд Васілю 50–55 год) "зайцам" ездзіць. Гэта вунь студэнты ці тыя, каму трэба 1–2 прыпынкі праехаць, білет не купляюць.

**Вячаслаў**, студэнт БДУ:

– На вакзал і з вакзала расклад руху "дзевятак" і "дзесятак" вытрымліваецца. Але, калі трэба крыху прабегчыся да аўтобуса, абавязкова раблю паскарэнне, бо наступнага можна не дачакацца.

**Заканчэнне будзе.**

***Галіна БАРЫСЕВІЧ, Юрый КАРПІЦКІ, Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ.***

### НАРОДНЫЯ ПРЫКМЕТЫ

Ранні прылёт ластавак і гракоў – на раннюю вясну.

Калі гракі адразу на гнёзды садзяцца, вясна дружная будзе.

**9 сакавіка – Паўраценне**. Гэты прысвятак адзначалі праз тры тыдні і адзін дзень пасля Грамніц. Называўся яшчэ Абратанне (ад царкоўнага "Обретение" – знаходжанне галавы Іаана Хрысціцеля). Асабліва шанавалі гэты дзень пчаляры. Яны заглядвалі ў вуллі і, калі знаходзілі ("обретали"), што пчолы дажылі да гэтае пары, то ўжо не сумняваліся ў паспяховым іх перазімаванні.

### ЯК ЗВАРЫШ, ТАК І З'ЯСІ

## Не дораг абед, а дораг прывет

## Салата "Лодачкі"

***Патрэбныя бульба, селядзец, бурак, морква, цыбуля, маянэз.***

Зварыць у лупінах прадаўгаватыя па форме бульбіны. Калі астынуць, пачысціць, разрэзаць папалам, выняць сярэдзінку (атрымаліся "лодачкі").

Начынка: селядзец, падзерты вараны бурак, морква, цыбуля, усё змяшаць з маянэзам і начыніць падрыхтаваныя лодачкі. Зверху зяляніна.

## Мяса "Пад шубай"

Любое ***мяса*** (бараніна, ялавічына) парэзаць сярэднімі кавалкамі. Каб было мякчэйшае, замачыць у вадзе з 50 г водкі, з воцатам. Крыху адбіць, пасаліць. Добра нацерці ***часнаком*** кавалкі мяса, дадаць ***кмін*** на смак. ***Цыбулю*** парэзаць калечкамі і густа пасыпаць ім мяса. Зверху надзерці на буйную тарку ***моркву***. Усё заліць не вельмі тоўстым слоем ***маянэзу*** з дабаўленнем невялікай колькасці ***тлушчу***. Тушыць у духоўцы на сярэднім агні 30–40 хвілін.

## Пірог "Фантазія"

***3 яйкі і 1 шклянку цукру ўзбіць, дадаць 1/2 бляшанкі згушчонкі, 1 пакет маянэзу (200 г), 1,5 шклянкі мукі, 1 маленькую лыжку соды пагасіць воцатам.***

Крэм: ***200 г масла ці маргарына, 1/2 бляшанкі згушчанага малака.*** Узбіць да гладкасці і паставіць ненадоўга на холад.

Усё старанна перамяшаць, раздзяліць на 2 часткі. У адну частку дадаць 3 маленькія лыжкі какава–парашку, другая частка – белае цеста. Спячы два каржы. Прамазаць каржы, калі астынуць, крэмам, верх і бакі пасыпаць пакрышаным пячэннем.

*Падрыхтавала Наталля БРОЎКА.*

### НЯВЫДУМАНЫЯ ГІСТОРЫІ

## На калгасным сходзе

Мінуў год, як у Кабыльніку арганізаваўся калгас, і яго працаўнікі сабраліся на справаздачна–выбарны сход. Зала мясцовага клуба запаўнялася народам.

Пасля абмеркавання дакладу кіраўніка калектыўнай гаспадаркі слова ўзяў прадстаўнік райкома партыі. Ускрыў хібы ў рабоце праўлення калгаса, усыпаў старшыні. Напрошваўся вывад: кіраўніка гаспадаркі трэба замяніць новым.

– А як думаюць прысутныя?

Устае сівавалосы дзядуля, пагладзіў рукой бараду ды і кажа:

– Які б ні быў наш старшыня, здымаць з пасады няма сэнсу.

– Чаму? Чым ён вас заваражыў? – ставіць пытанне прадстаўнік з Мядзела.

– Цяперашні старшыня абжыўся ў нас: новы дом пабудаваў, абзавёўся гаспадаркай. Няхай і надалей кіруе і выпраўляе недахопы. А новага выберам – ён зноў пачне з будаўніцтва дома. Калгасу карысці ад гэтага ніякай. Ды мы самі гаспадары калгаса, і нам лепш ведаць, каго выбіраць.

Так і застаўся ранейшы старшыня на ранейшым месцы. Зразумеў, што, калі не зменіць стыль кіраўніцтва, на наступны раз ніхто за яго не заступіцца.

## Проста жарт

Паляўнічыя выхваляліся сваёй здабычай, рознымі здарэннямі. Вядома, перабольшвалі, прыхарошвалі, што такога ў сапраднасці не бывае. Але чуліся галася:

– Такое можа быць, ахвотна верым.

Кампанія звяртаецца да аднаго сябра, які сядзіць моўчкі і толькі слухае іншых:

– А ў цябе не здарылася нічога незвычайнага?

– Здарылася сёння раніцой, калі накіраваўся на паляванне. Адышоўся ад хаты на паўсотню крокаў, як выбягае з хаты жонка і крычыць, каб спыніўся. Яна мне перадала...

– Што? Гавары, не маўчы! – пачуліся галасы.

Паляўнічы агледзеў сяброў, сунуў руку ў торбу, дастаў бутэльку гарэлкі і сказаў:

– Вось што яна мне дала, бо я забыўся.

Тут адразу грымнула:

– Не верым, такога не можа быць!

*Міхась ЧАРНЯЎСКІ.*

### ХАВАЙСЯ У БУЛЬБУ

## Партрэт у рамцы ўнітаза

Здарылася гэта на зімовай сесіі. Я сядзеў у інтэрнаце і спрабаваў чытаць падручнік (заўтра экзамен). Увечары з турпаездкі вярнуўся мой сусед па пакоі Віталік – амбал з лёгкаранімай псіхікай. Перапоўнены ўражаннямі, ён пачаў расказваць пра вандроўку.

Гаварыць, па шчырасці, ён амаль не ўмеў, таму расказ складаўся, пераважна, з хімічных формул (ён быў будучы хімік), сярод якіх фігуравала, у асноўным, шмат розных выклічнікаў: ух, ох, ого–го. Выслухоўваць гэтую лухту ў мяне не было ні часу, ні намеру, пра што я і заявіў Віталіку. Ён пакрыўдзіўся. Дастаў з сумкі ўласны партрэт, намаляваны на Неўскім невядомым мастаком, і пачаў зноў нешта трызніць наконт геніяльнасці тварэння. Я дэманстратыўна адвярнуўся і працягваў чытаць падручнік.

Віталік прымацаваў партрэт да сценкі і выйшаў з пакоя. Я з палёгкай уздыхнуў. Але праз хвіліну ён вярнуўся з суседам злева і пачаў зноў сыпаць формуламі і выклічнікамі, час ад часу тыцкаючы пальцам у партрэт. Сусед таксама дрэнна разумеў, што яму тут тлумачаць, таму паціху пачаў адступаць да дзвярэй і знік. Віталік не разгубіўся, яшчэ праз хвілін колькі ён прыцягнуў суседа справа. Так паўтаралася разоў з пяць.

Унутры ў мяне ўсё кіпела. І, калі Віталік пайшоў за чарговым слухачом, я бягом кінуўся ў прыбіральню, зняў круглае сядзенне з унітаза, вярнуўся ў пакой і прыстасаваў да партрэта такую арыгінальную рамку. На гэты раз Віталік з'явіўся з дзяўчынай, якой сімпатызаваў.

Яшчэ з парога ён пачаў сыпаць блытанымі фразамі, гледзячы дзяўчыне ў вочы і тыцкаючы пальцам у бок партрэта. Дзяўчына разгледзела арыгінальнасць рамкі, фыркнула са смеху. Віталік павярнуў галаву. Далей карціна нагадвала "Дзевяты вал" Айвазоўскага. Па пакоі ўсё лятала, падала і кіпела. Праз хвіліну ён супакоіўся і знік.

Да раніцы яго не было. Мне ўсё ж удалося дачытаць падручнік, і я нават атрымаў "добра". Калі пасля экзамену вярнуўся ў пакой, сядзенне было на ўнітазе, а партрэт знік. Болей я яго ніколі не бачыў.

*Ігар КІЦІКАЎ.*

### ПРОСТА АНЕКДОТ

Казіно пад раніцу. Амаль усе наведвальнікі паразыходзіліся, ля далёкага стала з рулеткай бавяць час два круп'е. Раптам да стала падыходзіць абсалютна, што называецца, адпадная дзяўчына.

– Хачу згуляць.

– Калі ласка.

– Толькі адзін раз.

– Калі ласка.

– Пастаўлю на нумар 1000 доляраў.

– Калі ласка.

– Я абавязкова выйграю. Я заўсёды выйграю.

– Жадаем поспеху.

– У мяне ёсць шчаслівы метад. Я буду гуляць без спадніцы і без трусікаў. Вы не супраць?

Абодва круп'е пачынаюць хвалявацца:

– Чаму супраць? Калі ласка.

Дзяўчо здымае спадніцу, трусікі:

– Пускайце шарык.

Круп'е кідае шарык. Дзяўчына пачынае прыпадымацца з–за стала:

– Ну, давай. Давай, ну! Ну!! Ну!!! Ну!!!! Што я гаварыла!!!!!

Кідаецца да круп'е, пачынае іх абдымаць, цалуе шарык... Ашалелыя круп'е тупа адлічваюць ёй фішкі, яна апранаецца і сыходзіць.

Адзін круп'е кажа другому:

– Вось... Бывае ж такое! Дарэчы, што выпала?

– Дурыла! – пачынае разумець другі. – А на што яна хаця б паставіла???

### ЧАЙНВОРД

*ад Мікалая Хадасевіча*

**Кожнае з дзевяці слоў гэтага чайнворда пачынаецца і заканчваецца літарай "а"**

1. Рака ў Кемераўскай вобласці РСФСР. 2. Краіна з аднайменнай сталіцай у Цэнтральнай Бірме ў XIV–XVIII стст. 3. Гіганцкая жаба, распаўсюджаная ў Цэнтральнай і Паўднёвай Амерыцы. 4. Буйны амерыканскі папугай. 5. Горад у Чэлябінскай вобласці. 6. Рака ў Сібіры, левы прыток Алдана. 7. Павозка ў Сярэдняй Азіі і на Каўказе. 8. Паўднёвае пладовае дрэва. 9. Трава, якая вырасла пасля скошвання.

*Адказы на крыжаванку, змешчаную ў №8*

**МЯЦЕЛІЦА**

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | С | | К | | П | | А | З | | |
| Г | І | Т | А | Р | А | | Г | М | А | Х |
| | Л | У | К | А | В | І | Н | А | | Р |
| Л | А | З | А | | А | К | Е | Н | Ц | А |
| | С | І | В | Ё | Р | | Ц | | А | П |
| Л | | Н | А | Л | О | М | | А | Р | |
| Я | Р | | | К | Т | | А | Н | К | А |
| Ж | А | Б | Р | А | К | | Л | Ё | В | А |
| | К | Х | О | | А | С | І | Л | А | К |

### ГАРАСКОП 6 – 12 САКАВІКА

**Авен (21.03–20.04)**

Дні здзейсненых надзей. Грашовыя паступленні, прызнанне ў каханні. Праўда, калі вы "актыўна" сядзелі на месцы і праяўлялі пасіўнасць, то і чакаць асабліва няма чаго.

**Цялец (21.04–21.05)**

Вы будзеце схільныя да прыступаў агрэсіўнасці, што можа справакаваць сямейныя спрэчкі. Але пасля 11–га блізкія вас проста не пазнаюць – сама дабрыня, мяккасць і спагадлівасць.

**Блізняты (22.05–21.06)**

Будзеце імкнуцца ў лідэры. Аднак тыя, каму неўласцівыя якасці "аўтарытэта", маюць усе шанцы нажыць дэпрэсію і незадаволенасць блізкіх.

**Рак (22.06–23.07)**

Такое ўражанне, што вы свядома пабудавалі вакол сябе сцяну, праз якую не могуць прабрацца не толькі праціўнікі, але і сябры. Аднак у асабістым жыцці магчымыя значныя перамены.

**Леў (24.07–23.08)**

Праявяцца пэўны інфантылізм, капрызлівасць, што можа прывесці да канфліктных сітуацый. У гэты перыяд лепш адысці ад спраў і заняцца асабістым жыццём.

**Дзева (24.08–23.09)**

Поўнае задавальненне падзеямі, людзьмі, работай. Аднак ёсць небяспека таго, што вашы ідэі ці планы не будуць успрынятыя ўсур'ёз. Паступленне грошай. Удалая дарога.

**Шалі (24.09–23.10)**

Скептыцызм, павышаная працаздольнасць. Усё гэта дапаможа вырашыць важную праблему. Нечаканая дапамога, на якую вы не разлічвалі.

**Скарпіён (24.10–22.11)**

Надзвычайная асцярожнасць ва ўсім, што тычыцца тэхнікі, асабліва аўтамабіляў. Непрыемнасці ва ўсім. Мужчыны рызыкуюць аказацца "пад абцасам", жанчыны не пазбегнуць рэўнасці.

**Стралец (23.11–21.12)**

Ад вас могуць адвярнуцца многія: як партнёры, так і сябры. Рызыка згубіць аўтарытэт, дэпрэсія, вы акажацеся быццам ніжэй за ўласны інтэлектуальны ўзровень. Трэба сабраць волю ў кулак.

**Казярог (22.12–20.01)**

Калі вы сябруеце з прадстаўнікамі знака Рака, то ў гэты перыяд лепшага партнёра вам не знайсці. Абодва засяроджаныя на справах, ахутаныя таямніцай і застрахаваныя ад умяшальніцтва ў асабістае жыццё.

**Вадалей (21.01–19.02)**

Нечаканае сумнае здарэнне, як ні дзіўна, палепшыць ваш стан і дапаможа ўзяць сябе ў рукі. Творчых Вадалеяў можа чакаць прызнанне.

**Рыбы (20.02–20.03)**

Вельмі добры перыяд ва ўсім. У сямейным і асабістым жыцці – спакой, задавальненне, падарункі. Нядрэнныя перспектывы і ў халасцякоў, магчымы пачатак светлага рамана.

